# ПАГОНЯ

Чацвер
30 лістапада 2000 г.
№ 45 (492)
Кошт 70 рублёў

## Абралі «сенатараў» ад Гарадзеншчыны

**23 лістапада ў абласным драматычным тэатры прайшло прысвечанае гэтаму пытанню пасяджэнне дэпутатаў гарадскіх і раённых Саветаў Гарадзеншчыны. Удзел у ім узялі кандыдаты ў члены Савета Рэспублікі, члены Савета Рэспублікі першага склікання, кіраўнікі абласнога Савета дэпутатаў, абласнога, гарадскіх і раённых выканкамаў, а таксама шэрагу абласных арганізацый і ўстаноў. На пасяджэнні прысутнічала старшыня Цэнтрвыбаркама Лідзія Ярмошына.**

Пасля выступленняў кандыдатаў і абмеркавання іх кандыдатур адбылося тайнае галасаванне. Усе вылучаныя восем кандыдатур былі абраныя членамі Савета Рэспублікі. У іх ліку - старшыня Гарадзенскага аблвыканкама Аляксандр Дубко, намеснік камандзіра 28-га армейскага корпуса Святаслаў Ліс, намеснік дырэктара ВА жыллёва-камунальнай гаспадаркі Смаргонскага райвыканкама Ірына Кляпацкая, генеральны дырэктар аграфірмы «Мажэйкава» Лідскага раёна Казімір Рахатка, дырэктар ААТ «Дзятлаўскі сыраробны завод» Станіслаў Жульпо, дырэктар ААТ «Ашмянскі мясакамбінат» Тамара Філіповіч, галоўны механік ААТ «Слонімская камвольна-прадзільная фабрыка» Васіль Салевіч і загадчык кафедры нервовых і нейрахірургічных хвароб Менскага дзяржаўнага медычнага інстытута Фёдар Аляшкевіч.

## Нягледзячы на нядоімку, план выканалі

**Павялічваецца запазычанасць суб'ектаў гаспадарання Гарадзенскай вобласці перад бюджэтам. За кастрычнік яна павялічылася на 501,4 мільёна рублёў і на пачатак лістапада склала 1 мільярд 175,8 мільёна рублёў.**

Найбольшыя сумы запазычылі прадпрыемствы і арганізацыі Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання (346,7 мільёна рублёў) і Міністэрства прамысловасці (256,3 мільёна рублёў). Пры гэтым колькасць сельгаспрадпрыемстваў, якія маюць запазычанасць звыш мільёна рублёў, узрасла з 52 да 80. Самыя буйныя даўжнікі сярод прамысловых прадпрыемстваў - Смаргонскі агрэгатны завод (187,4 мільёна рублёў) і АТ «Мастыдрэў» (159,1 мільёна рублёў).

Сярод асноўных прычын іх запазычанасці - высокая ўдзельная вага бартарных аперацый у агульным аб'ёме рэалізацыі прадукцыі і недастатковая работа па спагнанні дэбіторскай запазычанасці.

Тым не меней, нягледзячы на наяўнасць нядоімкі, план па даходах адпаведна вынікам дзесяці месяцаў быў выкананы ў вобласці на 107,4 працэнта; у абласны бюджэт паступіла 198 мільярдаў 967,2 мільёна рублёў.

## Школе – 300 гадоў

**Гэтымі днямі ў Барунскай сярэдняй школе Ашмянскага раёна праходзяць урачыстасці, прысвечаныя 300-годдзю гэтай навучальнай установы - адной з найстарэйшых у Беларусі.**

Да 1740 года гэта была трохгадовая свецкая навучальная ўстанова. Пасля праграма навучання была істотна зменена, і там рыхтавалі кандыдатаў у святары. У 1780 годзе навучальная ўстанова зноў стала свецкай. У XIX стагоддзі школа была вядомая сваімі выпускнікамі, якія пакінулі след у культуры, навуцы і грамадскім жыцці Беларусі, Літвы і Польшчы.

Цяпер у ёй вучацца 186 чалавек.

Ася Куніцкая



НАДВОР'Е

1, 2 снежня - воблачна, з праясненнямі, месцамі - мокры снег, вецер паўночны, 5-8 м/с. Тэмпература паветра 1, 2 снежня - уначы -4...-2, удзень 0...+3.

# На месцы ўзарванага касьцёлу ўсталявалі Крыж



**У ноч з 28-га на 29-е лістапада ў скверы ля Палацу тэкстыльшчыкаў невядомыя гарадзенцы ўсталявалі драўляны крыж. Шыльда на ім сьведчыць: «На гэтым месцы ў 1961 годзе была ўзарваная сьвятыня зямлі нашай Фара Вітаўта, помнік архітэктуры XIV-XVI стагоддзяў. Варварства зьдзейснена камуністычным рэжымам. Мы верым, што крыжы касьцёлу ўзьнясуцца над нашым горадам».**

Адзін зь ініцыятараў усталяваньня крыжа, імя якога застанецца таямніцай ПАГОНІ, паведаміў:

**- Мы маем надзею, што ў пачатку наступнага тысячагодзья гэты храм ажыве.**

Ужо з самага ранку ля крыжа былі людзі. Ня дзіва -



На гэтым месцы
ў 1961 годзе
была ўзарвана
святыня
зямлі
нашай
Фара
Вітаўта
помнік архітэктуры
XIV-XVIст.
Варварства здзейснена
камуністычным рэжымам
Мы верым што крыжы
касцёлу ўзнясуцца над
нашым горадам

белы крыж зь бел-чырвонабелаю стужкаю відаць з усіх прыпынкаў на плошчы Савецкай. Хтосьці праходзіць міма, але з большага людзі зь цікавасьцю прыпыняюцца і жвава абмяркоўваюць падзею. Мужчына размахвае рукамі:

**- Тут яны паставілі, а вось там, дзе ў 20-х узарвалі праваслаўную царкву, то яны не паставілі. І не паставяць!**

Бабулька жагнаецца і доўга ўглядаецца ў запаленую ля крыжа зьнічку. Малады хлопец, што праходзіць міма, плюе ў бок помніка. Дзядуля здымае шапку і дзеліцца ўспамінамі:

**- Казалі, што з Расеі прывезьлі дзьве тоны дынаміту. Але зь першай спробы падняць храм у паветра не атрымалася. Цэглу да наступнага году вывозілі. Шмат касьцей там было.**

Сталая кабета працягвае тэму:

**- Каму ён перашкаджаў? Прыгожы быў, лепшы за Брыгіцкі кляштар. Пасьля людзі баяліся, што і Фарны касьцёл, што насупраць, узарвуць. Пачалі пісаць, мітынгі праводзіць, нават начавалі ў храме. А гэты касьцёл не зьберагалі. Даўно трэба было крыж паставіць.**

Дарэчы, гэта ўжо ня першая спроба ўзьвесьці помнік на месцы ўзарванага касьцёлу. Усталёўвалі шыльды, выкладалі камянямі алтар. Але ўсё зьнішчалася. І да сёньня ў некаторых людзей ёсьць звычка сьпілоўваць крыжы - прыкладаў у Беларусі дастаткова. Хочацца верыць, што ў эўрапэйскай Гародні да такога паскудзтва ніхто не апусьціцца.

Юлія Дарашкевіч

**Даведка ПАГОНІ: 29 лістапада 1961 году камуністамі быў узарваны самы старажытны гарадзенскі касьцёл - Фара Вітаўта.**

**Драўляны храм быў збудаваны пры князе Вітаўце Вялікім напрыканцы XIV стагоддзя й лічыўся самым вялікім і найпрыгажэйшым ва ўсім Вялікім княстве Літоўскім.**

**Напрыканцы 80-х гадоў XVI стагоддзя побач з драўляным храмам кароль Стэфан Баторы збудаваў новы касьцёл, які пераняў назву свайго драўлянага папярэдніка - Фара Вітаўта. У скляпеньнях храму пэўны час захоўваўся прах Баторыя.**

**За чатыры наступныя стагоддзі Фара Вітаўта перажыла шмат пажараў і войнаў. Неаднаразова храм перабудоўваўся, мяняючы архітэктурныя стылі й нават канфэсійную прыналежнасьць. Так, у 1804 годзе, калі Беларусь знаходзілася ў складзе Расейскай імпэрыі, Фару аддалі праваслаўным. А праз тры гады асьвяцілі ў гонар Сьвятой Сафіі.**

**У 1918 годзе храм вярнулі каталікам. Пасьля другой сусьветнай вайны ён ня дзейнічаў. Касьцёл пераўтварылі ў склад.**

**29 лістапада 1961 году ў дзьве гадзіны ночы было выканана рашэньне мясцовых уладаў ад 8 сакавіка 1961 году «О сносе аварийного здания, бывшего военного костёла на Советской площади».**

**Прысуд сьвятыні прывялі ў выкананьне ленінградзкія піратэхнікі. На месцы касьцёлу зрабілі сквер. Падчас масавых гуляньняў у ім усталёўваюць феерверкі.**



Фара Вітаўта адзначаная стрэлкай.
Здымак пачатку 50-х з асабістага архіву аўтаркі.
Друкуецца ўпершыню

## «Элод» зноў выбраў Свірыдава

**28 лістапада на швейна-гандлёвай фірме «Элод» адбыліся выбары дырэктара.**

Безальтэрнатыўна быў абраны былы кіраўнік Рыгор Свірыдаў. На сходзе прысутнічала 127 акцыянераў і каля 200 дэлегатаў.

Вольга Астроўская

## Не страйкавалі, бо ня мелі грошай

**У мінулы чацвер гарадзенскія рынкі сустракалі сваіх наведвальнікаў пустымі прылаўкамі. Прадпрымальнікі страйкавалі. Праўда, як заўсёды, не абыйшлося бяз тых, хто ігнаруе агульныя акцыі пратэсту і не ўпускае зручнага моманту зарабіць капейку. Штрэйкбрэхераў можна было сустрэць амаль на кожным міні-рынку. Большасць зь іх сарамліва адводзілі вочы і не жадалі прадстаўляцца.**

На Грандзіцкім рынку на пустых сталах складзеныя домікам рулікі туалетнай паперы. Яе ўладальнік, мужчына сярэдніх гадоў, хутаецца ў танюткае паліто. Халадно. Гандаль не ідзе. Затое на другім канцы рынку ля прылаўка з касьметыкай увесь час тоўпяцца жанчынкі. Што ж, выглядаць прывабна хочацца заўсёды, нават у часы эканамічных крызісаў і забастовак. Прадаўцы - маладая пара - на пытаньне «Чаму не бастуеце?» не адказваюць.

- А Вам што? Гэта справа кожнага.

У размову ўступае дзяўчынапакупніца:

- Бачыце, колькі кліентаў? Дзе б яны купілі сабе памаду, каб усе баставалі?

І яшчэ адна прадаўшчыца на рынку з парашкамі ды іншымі мыйнымі сродкамі:

- Я доўга сумнявалася: ісьці сёньня на працу, ці не. Але майго шэфа ў горадзе няма, я і падумала, што лепш не рызыкаваць з гэтымі страйкамі. Мы, прадаўцы, нічога не вырашаем, я чалавек паднявольны...

На іншых рынках сітуацыя была падобная. На Фалюшы некалькі чалавек прадавала каву, шакаладкі ды шампуні.

- Хай бастуюць тыя, у каго грошы ёсьць, - заявіў малады мужчына, - а мне дзяцей карміць трэба.

Алеся Тарашкевіч



# Судовы марафон завершаны?











**23 лістапада скончыліся два апошнія суды над удзельнікамі пікету «Моладзь патрабуе переменаў» 12 лістапада. Святлана Нех атрымала 150 мінімальных заробкаў (540 тысяч рублёў), Вадзім Саранчукоў - папярэджанне. У выніку - 9 чалавек аштрафаваныя, траім вынесена папярэджанне. Агулам за кошт маладзёнаў дзяржаўная казна мусіць папоўніцца на 1 818 000 рублёў (505 мінімальных заробкаў).**

Дзесяць дзён, з 13 па 23 лістапада, цягнуліся судовыя працэсы над пікетоўцамі. Суддзі Дзмітрый Дземчанка і Сяргей Ярашэвіч, якія разбіралі справы, то рабілі перапынкі падчас судовага працэсу, то пераносілі суды на іншыя дні. Такія дзеянні суддзяў, як лічыць прадстаўнік БХК Аляксандр Антанюк, звязаныя, хутчэй за ўсё, з тым, што яны не ведалі, як сябе паводзіць, якое пакаранне выносіць. Невядома, што дакладна рабілі суддзі па-за межамі судовай залы. Застаецца толькі здагадвацца, што баючыся браць на сябе адказнасць і самастойна прымаць рашэнне, яны кансультаваліся з кіраўніцтвам.

Прапануем вам пералік пакаранняў, вынесеных пікетоўцам, і тое, за што фактычна яны іх атрымалі.

Сяргей Клімчук, Дзяніс Міхальчык і Наталля Капцэвіч трымалі плакат «Беларусь - гэта святое». Хлопцы аштрафаваныя на 30 мінімальных заробкаў, дзяўчыне вынесена папярэджанне.

Вольга Іванова заклікала сваім плакатам: «Змяні жыццё - пачні сёння», за што атрымала штраф у 25 «мінімалак».

Іна Мялешка і Вольга Філіповіч патрабавалі «Пераменаў». Абедзвюм - папярэджанні.

Алесь Лашкоўскі і Андрэй Мельнікаў трымалі бел-чырвона-белы сцяг БНФ і сцяг Маладой Грамады. Першага аштрафавалі на 30 мінімальных заробкаў, другога - на 20.

Андрусь Мельнікаў і Святлана Нех за арганізацыю пікету, на якім моладзь патрабавала новага і лепшага жыцця, атрымалі штрафы па 170 і 150 «мінімалак» адпаведна.

Алена Машкала і Вадзім Саранчукоў таксама «мелі неасцярожнасць» далучыцца да моладзі, што хоча зменаў у жыцці. Алена аштрафавана на 20 мінімальных заробных платаў, Вадзім атрымаў папярэджанне.

Капітан Аляксандр Вялічка. Менавіта ён дапамагаў намесніку старшыні Ленінскага РАУС Міколу Галаўко кіраваць затрыманнямі на пікеце 12 лістапада. Апошнім часам гэты чалавек не прапускае ніводнай акцыі апазіцыі. Яго заўзятая руплівасць здзяйсняць загады кіраўніцтва, «исполнять закон» (так ён сам апраўдвае сваю сталую прысутнасць на шэсцях, мітынгах, пікетах) зрабіла з яго пасмешышча. Ён старанна наведваў усе суды над пікетоўцамі, забаўляючы прысутных сваім нязграбным маўленнем. «Хутка заробак будзеце ў судзе атрымліваць», - трапна адзначыў Аляксандр Антанюк, звяртаючыся да Вялічкі.

- Скажыце, неабходна было затрымліваць пікетоўцаў і тым больш пакідаць чатырох з іх у ізалятары? - запытаўся праваабаронца ў Вялічкі на судзе над Святланай Нех.

- Закон мне гэтага не забараняе, - адказаў той, адварочваючы твар ад падсуднай, і папрасіў суддзю маральныя аспекты больш не чапаць.

На ўсе суды, нягледзячы на іх расцягнутасць у часе, падтрымаць сваіх сяброў прыходзіла моладзь. Пасля заканчэння працэсаў яны пакінулі ў судовай зале напамін пра сябе: налепку «Стоп - Лука» на трыбуне для сведкаў і надпісы «Жыве Беларусь» на спінках крэслаў.

**Алеся Сідлярэвіч**

**На здымках: вось так у Гродне праходзіла акцыя «Пераменаў!», удзельнікаў якой судзілі амаль два тыдні. За што?!**

ДЫСКУСІЯ

# У новае стагоддзе – з новым прэзідэнтам

**Паважаныя чытачы! ПАГОНЯ атрымала першыя водгукі на абвешчаную рэдацыяй дыскусію пра маючыя адбыцца выбары прэзідэнта Беларусі (гл. ПАГОНЮ ад 16 лістапада).**

## Сямён Домаш: «У дзяржаве павінны панаваць законы»


Сямён Домаш

***- Сямён Мікалаевіч, чаго патрабуе выбаршчык ад будучага прэзідэнта?***

1. Сапраўднай стабільнасці ў жыцці, у першую чаргу, матэрыяльнага забеспячэння. Гарантыі працы ці годнага ўтрымання па беспрацоўю. Веры ў заўтрашні дзень, упэўненасці, што заўтра мы і нашыя дзеці будзем жыць лепш, чым сёння. Каб у дзяржаве былі створаны і панавалі законы, накіраваныя на забеспячэнне інтарэсаў грамадзянаў, а не супраць іх.

2. Спынення хлусні з боку афіцыйных уладаў пра эканамічнае і палітычнае становішча краіны. Спынення распальвання варожасці ў грамадстве, пошуку розных «ворагаў», якія замінаюць нам жыць.

3. Цывілізаваных адносінаў да сваіх апанентаў, павагі да чужой думкі і поглядаў.

4. Абуджэння ў беларусаў нададзенай ім продкамі вядомай гаспадарлівасці і стварэння атмасферы для выяўлення ініцыятывы і жадання людзей самім палепшыць свой дабрабыт, а не спадзявацца на тое, што гэта прыйдзе само ці калі мы аб'яднаемся з якой-небудзь суседняй краінай.

***- Хто ў стане рэальна забяспечыць інтарэсы нацыі?***

Аб'яднаная дэмакратычная апазіцыя, якая пасля прыходу да ўлады абудзіць цікавасць да нашай краіны замежных інвестараў і капіталаўкладальнікаў, што створыць умовы развіцця эканомікі і дзякуючы гэтаму можна вырашыць сацыяльныя праблемы насельніцтва.

***- Як дамагчыся кантроля за дзейнасцю выбарчых камісіяў?***

Трэба дамагчыся змянення заканадаўства, каб уключыць у склад камісіяў прадстаўнікоў дэмакратычных палітычных і грамадскіх арганізацыяў.

## На вашу прапанову наконт удзелу ў дыскусіі!


Мячыслаў Грыб

***Лічу найбольш прымальным кандыдатам у прэзідэнты - генерала Грыба!!!***

*Думаю, ён аб'яднае грамадства, задаволіць ўсе сацыяльныя пласты, палітычныя сілы, нацыянальнасці і г.д.*

**Менеджэр**

## А.Патупа: «Адзінства апазіцыі не адбудзецца»

**«Ці гатовыя да выбараў прэзідэнта краіны апазіцыйныя сілы», - гэтае пытанне карэспандэнт ПАГОНІ задаў вядомаму палітолагу, доктару навук Аляксандру Патупе.**

- Апазіцыя павінна вылучаць адзінага кандыдата паводле выпрацаванай заранёў стратэгіі. Толькі пасля фармавання адзінай стратэгіі можна натуральным чынам падбіраць лідара, які стаў бы ўвасабляць распрацаваны план пераўтварэнняў у краіне. Тое, што лідар апазіцыі падбіраецца валюнтарысцкі, ні да чаго добрага не прывядзе, толькі пашкодзіць. Я заўсёды казаў, што вылучэнне нябожчыка Г.Карпенкі ў фармальна зацверджаныя «нацыянальныя лідары» нясе вялікую небяспеку, у першую чаргу самому Карпенку.

***- Пра небяспеку зразумела. У чым шкода?***

- Не ўдасца дасягнуць адзінства. Як найменей тры чалавекі пойдуць на выбары самастойна.

***- Хто гэта?***

- Гэта Статкевіч, Чыгір і Пазьняк. Аднак нельга думаць, што тыя, хто сёння настроены супраць Лукашэнкі, на выбарах прагаласуюць за апазіцыю.

## Добры дзень, рэдакцыя газеты ПАГОНЯ!

*У Беларусі на прэзідэнцкія выбары, што адбудуцца летам, на пасаду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ёсць два кандыдаты:*

*- Зянон Пазьняк;*

*- Сямён Шарэцкі.*

*Яны адпавядаюць усім патрабаванням, каб прэтэндаваць на гэтую пасаду. Зараз З.Пазьняк і С.Шарэцкі за мяжою, але ўлетку 2001 года будуць у Беларусі.*

**Жыхары г.Жодзіна**


Сямён Шарэцкі


Зянон Пазьняк

***Як бачым, думкі нашых чытачоў вельмі разнастайныя, палітык выглядае крыху прэсным, а навуковец - абстрактным. Мы спадзяемся, што дыскусія хутка набудзе больш змястоўнасці і эмацыйнасці. Чакаем вашых лістоў! Нагадваем паштовы і электронны адрас: 230025, Гродна, вул. К.Маркса,11; E-mail: pagonia@irex.minsk.by; а таксама нагадваем нумар пэйджара: абанент 95684 праз тэлефон 73-00-00***

# Беларуская прыгажуня вернецца з перамогай



**Сёння гарадзенка Святлана Крук (на здымку) прадстаўляе Беларусь на конкурсе прыгажосці тысячагоддзя «Міс Свету - 2000». Наша краіна ўпершыню прымае ўдзел у конкурсе такога рангу.**

Нагадваем, што Святлана адправілася ў Лондан яшчэ 5 лістапада. У сталіцы Вялікабрытаніі разам з іншымі 94 найпрыгажэйшымі дзяўчатамі Зямлі яна пасялілася ў гатэлі «Парк-лайн». Дзесяць дзён прыгажуні правялі на Мальдзіўскіх астравах, дзе адпачывалі і рэпетыравалі шыкоўнае шоу, якое і адбываецца сёння.

Матуля Святланы Крук Таццяна Уладзіміраўна, як і ўся сям'я, вельмі хвалюецца: «Гэта самая высокая прыступка, якой можа дасягнуць маладая дзяўчына - перамагчы на конкурсах у Гродне, Менску, а цяпер прадстаўляць краіну ў Лондане. Ёй там цяпер нялёгка, бо конкурс - гэта не толькі ўсмешкі на тэлээкране, усё значна складаней і адказней. Мы жадаем ёй удачы і хвалюемся за яе».

І мы, рэдакцыя ПАГОНІ, таксама жадаем нашай зямлячцы ўдачы і дасылаем прывітальны факс ад гарадзенцаў у Лондан.

А паглядзець конкурс «Міс Свету - 2000» маюць магчымасць уладальнікі сатэлітарнай антэны ў прамым эфіры сёння, 30 лістапада, у 22.00, астатнія - увечары 1 снежня па тэлеканалу «Польшча-2».

**Алена Сіневіч**
**Фота Антона Ляшчынскага**

# Усе хваробы - ад сэрца і ад кахання

**З панядзелка да пятніцы ў Гродне будзе праходзіць тыдзень здароўя. З 4 да 8 снежня гарадзенцы маюць магчымасць вырашыць свае праблемы са здароўем па прамых тэлефонах са спецыялістамі альбо на рабочых месцах на прадпрыемствах і ў школах.**

У панядзелак - Дзень здаровага сэрца пад дэвізам «Хочаш быць здаровым - будзь ім». Паводле статыстыкі, 52 працэнты беларусаў паміраюць ад сэрца - г.зн. ад сардэчна-сасудзістых захворванняў. Прычынамі дактары называюць стрэсы, звычку да тлустай ежы, тытуню, алкаголю. Цікава, што яшчэ напрыканцы XIX стагоддзя пра інфаркт людзі і не чулі ці адзначалі адзінкавыя выпадкі. Сёння ж толькі ў Гарадзенскай вобласці штогод здараецца каля 2 тысяч інфарктаў. Нарастае колькасць інсультаў, і, як прагназуюць дактары, бліжэйшым часам не чакаецца зніжэння колькасці сардэчна-сасудзістых захворванняў.

Цэнтр здароўя і абласное ўпраўленне здароўя раяць пры адчуванні праблемаў з сэрцам звяртацца ў абласны кардыялагічны дыспансер па тэлефоне 44-03-54, да загадчыкаў кардыялагічных аддзяленняў гарадскіх бальніцаў. Акрамя таго, у панядзелак з 14.00 да 16.00 будзе працаваць прамая лінія з галоўным кардыёлагам вобласці П.А.Бараноўскім па тэлефоне 72-37-00.

У аўторак увага грамадскасці ў межах тыдня здароўя будзе засяроджаная на стане здароўя жанчыны. На ейных кволых плячах - цяжар клопату пра дзяцей, дом, сям'ю, кар'еру... На клопат пра ўласнае здароўе проста не хапае часу. Каму з нас гэта не знаёма: да стаматолага - пастаю ў чарзе за талончыкам заўтра, да гінеколага мо і запішуся праз тыдзень, а паліць кіну з новага года?.. А між тым, такая страшная хвароба, як рак, часцей падсцерагае жанчын. З пачатку 1996 года першае месца ў структуры анкалагічных хваробаў у рэспубліцы займае рак малочнай залозы, а другое і трэцяе - рак маткі. Гэта значыць, што першыні па фактару рызыкі невылечных хваробаў стаяць жанчыны. Адна з прычынаў гэтага, як ні прыкра гэта прызнаваць, у нашай з вамі бязладнасці, бесталковасці ў адносінах да свайго здароўя. Мы спачатку «залятаем», а потым думаем, што рабіць. На сённяшні дзень у вобласці на сто народжаных немаўлятаў робіцца сто перарыванняў цяжарнасці. Як лічыць загадчык 2-й жаночай кансультацыі горада Ігар Навумаў, у нашым грамадстве проста яшчэ мала жанчын маюць уяўленне, што могуць займацца сексам і не зацяжарыць. І да гэтай пары з'яўляецца праблемай аборт у маладых дзяўчат. Так, у вобласці за 9 месяцаў 2000 года аборт зрабілі амаль 2,5 тысячы жанчын, у 15-ці працэнтаў з іх гэта была першая цяжарнасць. Жанчынам, якія маюць пытанні да дактароў з нагоды свайго рэпрадуктыўнага здароўя, 5 снежня Цэнтр здароўя прапануе лекцыі і сустрэчы ў жаночых кансультацыях з 13.00, акцыі па прафілактыцы раку малочнай залозы па месцы працы (фабрыка «Дынама», завод хлебапрадуктаў, КБМ), лекцыі ў паліклініках. Таксама на працягу дня можна тэлефанаваць і заходзіць у абласны Цэнтр здароўя, што па вуліцы Сацыялістычнай.

Асобныя дні тыдня здароўя адведзеныя прафілактыцы траўматызму і ёдадэфіцыту. Да ведама чытачоў: ад траўмаў мужчыны гінуць удвая часцей за жанчын. А дэфіцыт ёду правакуе адставанне ў інтэлектуальным развіцці дзяцей і дарослых і хваробы валляка (зоба). Сярод масавых цікавых акцыяў тыдня здароўя - спаборніцтвы па валейболу паміж медработнікамі 6 снежня ў СШ N21, па баскетболу ў ГПТВ N64, прамыя тэлефонныя лініі на працягу тыдня па тэлефоне 72-37-00 з 14.00 да 16.00.

# Доўгая зімовая ноч на праспекце Купалы

**Жыхары дома N24 па праспекту Янкі Купалы напрыканцы мінулага тыдня тры дні сядзелі без электрычнасці.**

Аварыя з кабельнай лініяй здарылася каля 5 гадзін раніцы ў пятніцу. У выніку больш за сотню кватэраў засталіся без святла. Давялося амаль увесь час паліць свечкі, бо ў лістападзе, як вядома, цямнець пачынае пасля абеду.

Капаць ямы вакол дома ў пошуках месца пашкоджання кабеля рабочыя «Электрасетак» пачалі толькі на наступны дзень. Тым часам жыхаркі абяструпчанага дома пачалі гуртавацца ля пад'ездаў у даволі агрэсіўным настроі. У некага бялізна пачала кіснуць у пральных машынах. А ў адным з пад'ездаў рыхтаваліся да хаўтураў... У выніку да капання ямаў далучыліся самі жыхары.

Гэта некаму падасца смешным, але ўвечары ў суботу на некалькі гадзін адключыліся тэлефоны на шасцёрку ва ўсім Прынёманскім раёне.

А святло далі ў нядзелю, 26 лістапада, у другой палове дня. Аднак доўга жыхары злашчаснага дома па праспекту Янкі Купалы не парадаваліся. Учора, 29 лістапада, у доме N24 знікла гарачая вада...

**Ул.інф.**

# Ад сэсіі да сэсіі

**...жывуць студэнты весела. Не паспела гарадзенскае студэнцтва адсьвяткаваць Дзень студэнта, як надышоў час паклапаціцца пра пасьпяховую здачу сэсіі. А разам з гэтым - і пра магчымасьць атрымаць дадатковую капейку ў сьціплы студэнцкі бюджэт. За кошт чаго жыве сёньня гарадзенскі студэнт?**

У медычным унівэрсытэце сёньня навучаецца на стацыянары паўтары тысячы чалавек. Частка зь іх сама плаціць за сваё навучаньне. Першакурсьнікам трэба заплаціць 204 мінімальныя заробкі, на 2-6 курсах - па 162 «мінімалкі» ў год. Праўда, адмысловая створаная камісыя можа зрабіць асобным студэнтам зьніжкі ў плаце за навучаньне.

Другой палове студэнтаў дзяржава выплочвае стыпендыі на навучаньне. У медыкаў найменшая стыпендыя складае 7200 рублёў. Выдатнікі атрымліваюць 11520 рублёў. Такія ж стыпендыі атрымліваюць і студэнты Гарадзенскага дзяржаўнага ўнівэрсытэту імя Янкі Купалы. Праўда, выдатнікам з гуманітарных факультэтаў у адрозьненьне ад тэхнічных плоцяць на 700 рублёў меней.

Найменшую стыпендыю маюць студэнты, якія здалі сэсію зь сярэднім балам менш за 3,6. У гэтым выпадку іх чакае «сацыяльная стыпендыя ў памеры 5760 рублёў».

На такія грошы студэнтам трэба сябе пракарміць (сярэдні кошт абеду ў студэнцкай сталоўцы - 600 рублёў), забясьпечыць сшыткамі, апрануць, заплаціць за жытло.

Дарэчы, калі студэнты-медыкі, паводле словаў выконваючага абавязкі прарэктара па інфармацыйна-выхаваўчай частцы медунівэрсытэта Яўгена Цешчанкі, усе жывуць у інтэрнатах, то ў ГрДзУ месцаў хапае не ўсім.

І калі некаму пакуль хапае дапамогі з боку бацькоў, то іншым даводзіцца дбаць пра сябе самім. Так што посьпехаў вам, студэнты!

**Вольга Астроўская,**
**Павал Балінскі**

# «Ступені» Жыровіцкай духоўнай сэмінарыі

**Зьявіўся першы нумар студэнцкага часопіса «Ступені».** Выдаюць яго Менская духоўная акадэмія і духоўная сэмінарыя ў Жыровічах. У часопісе друкуецца інтэрв'ю зь Мітрапалітам Філярэтам, матэрыял з гісторыі Менскай духоўнай сэмінарыі ды іншае. Аўтары большасьці артыкулаў - студэнты сэмінарыі. Усе матэрыялы пададзеныя на расейскай мове, нават тыя, якія былі напісаныя ў арыгінале па-беларуску. Прычым, у расейскім перакладзе шмат памылак.

**БАРЦ**

# У барацьбе са СНІДам уся надзея на мужчынаў

**Заўтра - Сусветны дзень барацьбы са СНІДам. І дзень, і сусветная кампанія супраць СНІДу ў 2000 годзе праводзіцца пад дэвізам: «СНІД: многае залежыць ад мужчынаў». У сёлетняй кампаніі ўпершыню да праблемы «чумы XX стагоддзя» выкарыстоўваецца гендэрны падыход.**

Дык чаму ж неабходным стала забеспячэнне больш шырокага ўдзелу мужчынаў у мерапрыемствах па прадухіленні эпідэміі? На ўсіх кантынентах, акрамя Афрыкі на поўдзень ад Сахары, частата заражэння ВІЧ-інфекцыяй і смяротнасць ад СНІДу сярод мужчын вышэй (4/5 ад агульнай колькасці), чым сярод жанчын. Пры гэтым хвараюць часцей за ўсё маладыя людзі. І Беларусь не вылучаецца з сусветнай тэндэнцыі. З ліку зарэгістраваных ВІЧ-інфікаваных у рэспубліцы мужчыны складалі каля 70 працэнтаў, жанчыны - амаль 30 працэнтаў. Ільвіная доля хворых - мужчыны 20-29-ці гадоў. Супрацоўніца Гарадзенскага абласнога цэнтра прафілактыкі СНІДу Таццяна Кісялёва лічыць, што хуткаму распаўсюджванню эпідэміі паспрыялі памылковыя стэрэатыпы мужнасці. Да іх залічаюцца тыя факты, што мужчыны традыцыйна маюць больш пазашлюбных сексуальных партнёраў, чым жанчыны. Акрамя таго, ВІЧ-інфікаваныя наркаманы (у асноўным - мужчыны) могуць перадаваць вірус як партнёрам па ўжыванні наркотыкаў, так і палавым партнёрам. Мужчыны аказваюцца больш уразлівымі да заражэння ў сілу сацыяльных прычынаў. Яны часцей мігруюць у пошуках работы, жывуць далёка ад сям'і і дома. Мужчыны, асобы слабыя да спакусаў, часцей карыстаюцца паслугамі камерцыйнага сексу, ужываюць больш алкаголю «для зняцця стрэсу». У параўнанні з жанчынамі, мужчыны радзей звяртаюцца па медычную дапамогу, радзей зважаюць на сваё сексуальнае здароўе.



Такім чынам, дактары лічаць прыцягненне мужчынаў у якасці партнёраў у барацьбе са СНІДам самым верным шляхам змяніць ход развіцця эпідэміі. Сёння ад мужчынаў чакаюць сапраўднай адказнасці як мужоў і бацькоў за сям'ю.

На першае лістапада ў Беларусі выяўлена 3188 ВІЧ-інфікаваных. Гарадзеншчына па колькасці хворых - 108 выпадкаў - знаходзіцца на пятым месцы пасля Гомельскай вобласці, горада Менска, Берасцейскай і Магілёўскай абласцей. Па сацыяльнаму складу большасць ВІЧ-інфікаваных належыць да наступных катэгорыяў: без вызначанага роду занятказ, рабочыя, з месцаў пазбаўлення волі. З'яўлення вакцыны ад СНІДу навукоўцы чакаюць толькі ў 2010 годзе.

На сённяшні дзень у лабараторыі Гарадзенскага Цэнтра прафілактыкі СНІДу штодзённа праводзіцца каля 400 аналізаў крыві. 10 працэнтаў усіх аналізаў даюць станоўчы вынік і адпраўляюцца на пацвярджэнне ў Менск.

**Алена Сіневіч**

# «Каложа, туга мая светлая!..»

**26 лістапада Уладзіміру Караткевічу, выдатнаму беларускаму паэту, празаіку, драматургу і публіцысту, споўнілася 70 гадоў. На гэтым свеце ён пражыў усяго 54 гады, памёр у 1984-м. Пакінуў багаты творчы набытак. Да Гродна меў асаблівых пачуцці, бо тут «мінулае нібыта задрамала і дзень сягоннешні - не госць». Гісторык па адукацыі, Уладзімір Сямёнавіч глыбока разумеў прыгажосць і непаўторнасць помнікаў даўніны, іх значэнне для велічы нацыі.**

Нездарма Народны пісьменнік Беларусі Васіль Быкаў, які доўга пражыў у Гродне, у прадмове да збору твораў Уладзіміра Караткевіча ў 8-мі тамах, зазначыў, што «роўнага яму няма». Наш край займаў у творчасці пісьменніка значнае месца. Яшчэ ў час вучобы на філалагічным факультэце рускага аддзела Кіеўскага універсітэта імя Тараса Шаўчэнкі падрыхтаваў шэраг літаратуразнаўчых прац, у тым ліку «Багдановіч і сучаснасць». Гэта было ў 1949 - 1954 гадах.

Максіма Багдановіча, якога таксама жыццёвы лёс знітаваў з Гродна, Уладзімір Караткевіч будзе ўзгадваць шмат разоў. У вершы «Фантазія» ёсць такія радкі:

**Йдуць у пакой**
**праз халодны туман:**
**Дантэ, Петрарка,**
**Катул, Багдановіч...**

Паэтычны твор «Багдановічу» адметны глыбокай павагай да Максіма. Караткевіч нават робіць выснову:

**Бо як ёсць у народа такія -**
**Не загіне давеку народ.**

Узгадваецца Гарадзеншчына у вершах «Домік Багдановіча», «Нявесце Каліноўскага», «Бекеш, або ода ерасі», «Паэма пра явар і каліну», «Слова Міцкевічу», артыкулах «Летапісец», «Аўтару «Вянка» ды іншых.

У снежні 1981 года Уладзімір Караткевіч прыняў актыўны ўдзел у святкаванні 90-годдзя з дня нараджэння Максіма Багдановіча: быў на адкрыцці выставы, прысутнічаў на вечарыне ў тэатры оперы і балета, выказаў свае думкі ў майстэрні А.Марачкіна.

Шмат якія вершы маюць прысвячэнні Янку Брылю, Васілю Быкаву, Адаму Мальдзісу, Дануце Бічэль-Загнетавай, Адаму Міцкевічу - асобам, якія прынеслі літаратурную славу Гарадзеншчыне.



Уладзімір Караткевіч

Глыбокае веданне нашага краю паказаў Уладзімір Караткевіч у сваім славутым празаічным нарысе «Зямля пад белымі крыламі». Пра гэта сведчаць раздзелы «Гродна - меч, і воля, і слава», «Вялікія» малыя гарадкі», «Літва. Белая Русь», «Новыя песні новага дня», «Раз'яднаная зямля», «На этапах».

Уладзімір Караткевіч любіў падарожнічаць. Ён аб'ездзіў усю Беларусь. У чэрвені 1962 года разам з Янкам Брылём і Уладзімірам Караткевічам наведалі Слонім, Кракотку, Зэльву, Ваўкавыск, Масты, Шчучын, Мала-Мажэйкава, Ліду, Наваградак, Валеўку, Свіцязь. У гэты час быў задуманы раман «Хрыстос прызямліўся ў Гародні».

У 1966 годзе з Адамам Мальдзісам вывучалі Астравеччыну. Неўзабаве разам з Янкам Брылём і Рыгорам Барадуліным вандравалі па Налібоцкай пушчы і яе наваколлі. У жніўні таго ж года ў складзе здымачнай групы «Беларусьфільма» зноў здзейсніў паездку па Гарадзеншчыне - Расолы, Міхалішкі, Сынкавічы, Варняны, Гродна, Свіслач, Слонім, Наваградак. У 1967 годзе быў у Крыму на магіле Багдановіча і ля доміка, дзе памёр Максім, усклаў кветкі ды наняў людзей дагледзець пахаванне.

У 1967 годзе выйшаў з друку зборнік вершаў Ларысы Геніюш «Невадам з Нёмана». На грамадскіх асновах паэтычныя радкі адрэдагаваў Уладзімір Караткевіч. У лютым 1973 года з Адамам Мальдзісам сустракаўся са студэнтамі Гарадзенскага педінстытута. У Празе пазнаёміўся са знакамітым спеваком Міхасём Забэйда-Суміцкім, сынам Наднёманскага краю.

Сакавік 1977 года адзначаны семінарам маладых пісьменнікаў у Гродне. У яго рабоце бралі ўдзел Васіль Быкаў, Аляксей Карпюк, Данута Бічэль-Загнетава, Юрка Голуб, Валянцін Болтач. Быў і Уладзімір Караткевіч. Мясцовая газета змясціла з ім гутарку «Город моей любви...».

Відавочцы памятаюць яго шпацыры па старым горадзе. Караткевіч захапляўся відовішчам і часцяком паўтараў: «Хацця б гэтае хараство не знішчылі». І выказваў мару: накрыць гістарычныя забудовы чымсьці накшталт шклянога звана.

Уладзімір Караткевіч памёр 25 ліпеня 1984 года. Меў цяжкую і працяглую хваробу. Засталіся яго кнігі, сярод якіх чытачы вылучаюць раманы «Чорны замак Альшанскі», «Хрыстос прызямліўся ў Гародні», «Каласы пад сярпом тваім», аповесць «Дзікае паляванне караля Стаха», нарыс «Зямля пад белымі крыламі», шматлікія апавяданні, вершы і паэмы, драматычныя творы, эсэ, перакладзеныя на дзесяткі замежных моваў.

Ён быў узнагароджаны ордэнам Дружбы народаў. Радзіма пасмяротна адзначыла Дзяржаўнай прэміяй імя Якуба Коласа за раман «Чорны замак Альшанскі».

**Антон Лабовіч**

# Чалавек, які стаў Валадаром Часу

**Каложа, туга мая светлая!**
**У чорны Нёман па чорным шкле**
**Сіняй кропляй спадае ракета**
**Бліцам зорка ў ціхі Бетлем.**

Гэтыя прыгожыя радкі Уладзімір Караткевіч прысвяціў нашаму гораду, а сам верш адраваў паэтцы Дануце Бічэль. Вясною 1965 года яны сустрэліся на мосце паміж двумя замкамі - Новым і Старым. Тады Караткевіч упершыню прыехаў у наш горад, каб убачыць тут сярэдневяковую Гародню, у якой павінен быў прызямліцца Хрыстос. І ён яе ўбачыў ва ўсёй сваёй непаўторнай красе. Убачыў старажытную Каложу, «з небам, з Нёманам, з зямлёю злітую». Кабета, вартаўнічка храма, спачатку не хацела пускаць унутр, але не было, мусіць, ніводнай жанчыны, што магла б адмовіць Караткевічу - здавалася, нейкая светлая энергія зыходзіла з ягоных вачэй. Па рыпучых сходах яны падняліся наверх. Растлумачыўшы, як дзейнічаюць галаснікі, ён заспяваў старажытную беларускую песню, вядомую, хіба што, яму аднаму. Словы гэтай песні падхапіў хор галаснікоў, і можа быць, у адным з іх да гэтай пары застаўся і жыве голас Уладзіміра Караткевіча.

Убачыў ён высокія вежы гарадзенскіх касцёлаў і кляштараў, што бліцам выспы ўзвышаюцца над ціхімі хваламі гарадскіх дамоў. Найбольш Караткевіча ўразіў сваёй веліччу кляштар езуітаў. Ён гладзіў далонямі шурпатыя сцены, і ад дотыкаў ягоных рук гэтыя сцены ажывалі, адчуваючы цяпло чалавечай душы.

Сваё падарожжа яны скончылі на вуліцы Цёткі, што таксама вельмі сімвалічна, хоць, можа, тады ніхто з іх і не задумваўся над паслядоўнай заканамернасцю выпадковых здарэнняў.

«Ведаеш, Данута, - сказаў ён на развітанне, - калі б я быў прэзідэнтам незалежнай Рэспублікі Беларусь, я пабудаваў бы над гэтым горадам шкляны купал, каб прыгажосць яго захавалася навечна».

Мінаюць гады, але высокі крыштальны купал, узведзены аднойчы Уладзімірам Караткевічам над нашымі душамі, захоўвае спрадвечную веліч і прыгажосць, якую падарыла сваім дзецям Зямля пад белымі крыламі - наша беларуская зямля.

26 лістапада яму споўнілася б 70. Толькі ці варта апранаць у лічбавае адзенне Чалавека, які стаў Валадаром Часу?

**Анатоль Брусевіч**

# Польскія паэты - па-беларуску

**У ПАГОНІ ад 26 кастрычніка бягучага года быў надрукаваны артыкул пра аўтарскую вечарыну, прысвечаную 60-годдзю беларускага паэта Яна Чыквіна, які жыве і працуе ў Польшчы. Прыкладна ў той жа час у мяне з'явілася магчымасць пазнаёміцца з творчасцю Чыквіна-перакладчыка. У прыватным кіёску ў Маладзечне я купіў кнігу «Лісце срэбнай таполі». Выбар і пераклад лірычных твораў XX стагоддзя зрабіў менавіта Ян Чыквін. Кніга выдадзена напрыканцы мінулага года ў Беластоку.**

У зборніку пададзеныя пераклады вершаў 54 польскіх паэтаў. Сярод аўтараў, якія набылі вядомасць ужо ў першай палове XX стагоддзя, змешчаныя вершы, у прыватнасці, Леапольда Стаффа, Юліяна Тувіма, Баляслава Лесьмяна, Марыі Паўлікоўскай-Ясанжэўскай і многіх іншых. З аўтараў, больш вядомых з пасляваеннага перыяду перадусім варта назваць імёны лаўрэатаў Нобелеўскай прэміі Чэслава Мілаша і Віславы Шымборскай, такіх знаных паэтаў, як Збігнеў Гэрберт, Тадэвуш Ружэвіч, а таксама вельмі папулярнага ў Польшчы ксяндза-паэта Яна Твардоўскага ды іншых аўтараў розных пакаленняў.

Зборнік «Лісце срэбнай таполі», безумоўна, будзе спрыяць знаёмству беларускіх чытачоў з польскай паэзіяй, і за гэта перакладчык заслугоўвае словаў падзякі. Дарэчы, у прадмове Ян Чыквін піша, што пераклад твораў польскіх аўтараў ён робіць з пачатку 60-х гадоў, з перапынкамі, да нашых дзён.

**Ф.Л.**

# Мастацтва яднае людзей

**25 лістапада ў Гарадзенскім абласным тэатры адбыўся VIII Міжнародны фестываль «Артыстычныя сустрэчы Гродна-Беласток». Арганізатары свята: Упраўленне культуры гарадзенскага аблвыканкама, Абласны метадычны Цэнтр народнай творчасці, Беларускае грамадска-культурнае таварыства ў Польшчы і Саюз палякаў Беларусі.**

Гэты традыцыйны фестываль праходзіць штогод у Польшчы і на Беларусі па чарзе. Удзельнікі - лепшыя беларускія мастацкія самадзейныя калектывы з Беласточчыны (Польшча) і польскія - з Гарадзеншчыны (Беларусь). Усяго на фестываль прыехала каля 400 чалавек.

У выкананні польскіх калектываў з Радуні, Ваўкавыска, Ліды і Гродна гледачы пабачылі танцы і пачулі песні амаль усіх рэгіёнаў Польшчы: кашубскі танец, вакальна-харэаграфічную кампазіцыю «Люблінская сюіта», кракавяк і мазурку.

Беларускія калектывы ў сваю чаргу абспявалі палякаў з Беларусі. «Купалінка» ў выкананні Багуславы Карчэўскай, Мажэны Зрайкоўскай і калектыва «Прымакі» (Беласток) паставіла на калені ўсю залу.

Хрысціна (студэнтка вучылішча мастацтваў, прыехала з Мурманска):

- Тое, што я пачула зараз - гэта супер! Вельмі хачу навучыцца спяваць «Купалінку» па-беларуску, хоць і не ведаю гэтай мовы.

Але якімі б мы ні былі рознымі: палякамі ці беларусамі, фінальная песня паставіла ўсё на свае месцы. Словы беларускай песні «Люблю наш край» зала спявала стоячы. Усталі ўсе - і палякі, і беларусы, і чыноўнікі, і простыя людзі. Некуды раптам зніклі нацыянальныя і дзяржаўныя межы, сацыяльная няроўнасць. Ці гэта не прыклад таго, што людзей яднаюць не палітычная дэкларацыя і саюзы, а мастацтва і культура?

**Юлія Коцкая**

# Да сяброўства рукой падаць

**26-27 лістапада Гарадзенскі абласны тэатр лялек у межах распачатага творчага супрацоўніцтва паміж беларускімі і польскімі артыстамі гастраляваў у Беластоку.**

Гарадзенскія лялечнікі паказалі ў беластоцкім тэатры сваіх небезвядомых «Тутэйшых» для дарослых і «Неверагодны ілюзіён» для дзяцей. А ў беластоцкім філіяле Варшаўскай акадэміі мастацтваў з поспехам запрэзентавалі спектакль «Трагедыя аб Макбеце».

- Гэта толькі пачатак творчага супрацоўніцтва гарадзенскіх і беластоцкіх артыстаў, - гаворыць галоўны рэжысёр Гарадзенскага тэатра лялек Мікалай Андрэеў. - Мы і надалей плануем праводзіць абменныя гастролі, што збліжае не толькі артыстаў, але і гледачоў нашых краінаў, і адкрывае новыя далягляды.

**Адам Налібоцкі**

# Кузні народных майстроў - 60!

**7 снежня Гарадзенскаму навукова-метадычнаму цэнтру народнай творчасці (ГНМЦ) спаўняецца 60 гадоў.**

Міжсаюзныя дамы народнай творчасці былі створаныя ў 1939-1940 гадах. Гарадзенскі дом народнай творчасці спачатку мясціўся ў Беластоку, пасля быў перанесены ў Гродна. За час свайго існавання супрацоўнікі гэтай установы арганізавалі безліч культурніцкіх мерапрыемстваў, канцэртаў, выставаў. У розныя гады ў Гарадзенскім навукова-метадычным цэнтры працавалі знакамітыя людзі: мастакі - Міхась Баразна, Фелікс, Яўген і Алена Шунейкі, пісьменнік Артур Цяжкі, кампазітары - Аляксандр Шыдлоўскі, Марк Коп. Зараз ГНМЦ узначальвае таленавіты музыкант і арганізатар Алесь Лойка, які адначасова кіруе вядомым у рэспубліцы фальклорным ансамблем «Гараднiца».

**Ігар Гандлеўскі**

# «KARTKI» святкуюць юбілей

**З 30 лістапада па 2 снежня ў Польшчы пройдуць юбілейныя мерапрыемствы з нагоды 10-годдзя стварэння літаратурна-мастацкага квартальніка «KARTKI».**

Сёння ў Варшаве адбываецца літаратурная канферэнцыя з удзелам знаных польскіх пісьменнікаў і крытыкаў - абмеркаванне творчых дасягненняў і набыткаў часопіса. А за дзесяць гадоў існавання беластоцкія «KARTKI» здабылі прызнанне і папулярнасць не толькі ў самой Польшчы, але і за мяжою. Рэдакцыя часопіса заснавала таксама сваю бібліятэку, каб выдаваць зборнікі самых цікавых аўтараў. Так асобнай кнігай пабачыў свет небезвядомы «Народны альбом» у перакладзе на польскую мову Аліны і Мікалая Ваўранюкоў. Раней «Народны альбом» можна было пачуць хіба што з касетаў.

Заўтра ў Беластоку - працяг святкавання юбілея. Пройдуць перформансы і канцэрт з удзелам беларускіх, польскіх і ўкраінскіх выканаўцаў. У акцыях прымуць удзел стваральнікі «Народнага альбома» - менчукі Міхал Анемпадзістаў, Кася Камоцкая, Лявон Вольскі, Алесь Памідораў (разам з музыкамі «Новага неба» і N.R.M.), а таксама паэт Юры Гумянюк з Гродна ды ўкраінскія літаратары з Івана-Франкоўска Юры Іздрык і Віктар Небарак.

- «KARTKI» не ўпершыню выступаюць ініцыятарам і арганізатарам падобных імпрэзаў, - гаворыць галоўны рэдактар беластоцкага часопіса Багдан Дудко. - Мы ўжо практыкавалі падобныя сустрэчы, летась «раскручвалі» «Народны альбом» у Польшчы. Зараз, дзякуючы «Карткам» творы сучасных беларускіх аўтараў прысутнічаюць у польскім культурніцкім кантэксце і карыстаюцца папулярнасцю, што вельмі радуе... 2 снежня ў сваёй роднай вёсцы Цісоўка я праваджу сяброўскае Cocktail-party - працяг святкавання нашага юбілея. Гэта будзе сюрпрыз!

**Людвік Сарока**

# Пра наваградзкія могілкі і пахаваньні

У Наваградзкай цэнтральнай раённай бібліятэцы адбылася прэзэнтацыя кнігі дырэктара музэя Адама Міцкевіча Міколы Гайбы. Знаны гісторык прадставіў сваю працу пад назвай «Могілкі і пахаваньні ў Наваградку». У ёй прасочана гісторыя вядомых і маркуемых пахаваньняў Наваградку ад часу яго ўзьнікненьня ў X стагодзьдзі да нашых дзён. Кніга зьяўляецца, бадай, самым дакладным даведнікам для тых, хто цікавіцца падобнай тэмай.

**БАРЦ**

# Вольскі сьпяваў лежачы, а Паўлаў паказваў язык




**Гурт NRM лічыць, што Беларусь трымаецца на трох чарапахах. Так было спрадвеку, і ніхто ўжо ня можа сказаць дакладна, чаму яно так. Затое дакладна вядома, што «Тры чарапахі» - гэта яшчэ і назва новага альбому NRM, які ў гэтыя выходныя ўжо зьявіўся ў продажу. А гарадзенцы слухалі як старыя, так і новыя песьні гурта ў пятніцу, у Палацы культуры хімікаў. Канцэрт зарганізавала Гарадзенская абласная філармонія.**

На пачатку праграмы саліст гурта Лявон Вольскі ад імя адміністрацыі Палаца папрасіў усіх прысутных паводзіць сябе прыстойна - не сядаць на сьпінкі крэслаў, не ўскокваць з месцаў, не запальваць зьнічкі і цалавацца толькі ў адведзеных для гэтага месцах.

Алег Дземідовіч (Алезіс), бубнач NRM:

**- Вельмі прыемна, што публіка першыя песьні слухала, сядзячы спакойна на месцах. Гэта сьведчыць пра тое, што людзі цікавяцца не толькі музыкай, але і тэкстамі.**

Першыя песьні публіка насамрэч слухала спакойна, але на «Одзірыдзідзіне» нэрвы фанаў здалі - натоўп рушыў у праходы, да сцэны. З дзесятак міліцыянтаў толькі прыцiснуліся да сьценаў, бо ўсадзіць на месцы падлеткаў, якія вішчалі, трэслі галовамі і скакалі, было немагчыма. Праўда, аднаго хлопца, які рызыкнуў выцягнуць бел-чырвона-белы сьцяг, усё ж такі вывялі з залі.

Лявон Вольскі сьпяваў стоячы, седзячы і лежачы. А Піт Паўлаў...

**- А Піт... Піт такі гад! - падзяліўся ўражаньнямі ад канцэрту вучань СШ №32 Антон Дзеюк. - Ён увесь час дражніў публіку. Падыйдзе блізка, - ну вось ён, у паўметры ад цябе, - пакажа язык і сыходзіць зноў!**

Пасьля амаль двухгадзіннага канцэрту публіка выклікала сваіх



**Фаны прарваліся ў грымёрку да сваіх кумiраў Лявона Вольскага (злева) і Піта Паўлава (справа) нават праз кардон міліцыі**

кумiраў на біс ажно двойчы. Пасьля некалькі дзесяткаў чалавек адмовіліся пакінуць залю, патрабуючы аўтографаў. Скандавалі «Жыве Беларусь!», «Жыве NRM!», «NRM - чэмпіён!» і «Нёман - чэмпіён!».

**- А я са сцэны медыятар на памяць узяў і аўтограф на кашулю! - выпучыў пуза Ільля Кіжук, сябра Антона. - А ўражаньняў нават не возера, а мора! Мора з трыма чарапахамі!..**

Супрацоўнікі міліцыі, якія ахоўвалі правапарадак, канцэртам асабліва не былі ўражаныя:

**- Нам спадабалася адна песенька - а-лала-лай. А ўвогуле нам больш падабаецца гэтая, ну як там яе? З канцэртным турам зараз ездзіць... Ірына Дарафеева. Класная баба!**

Самі энэрэмаўцы засталіся задаволенымі канцэртам, гукам і пляцоўкай (дарэчы менавіта на сцэне «Хімікаў» у 1988 годзе адбыўся самы першы ў Гародні канцэрт NRM, тады яшчэ «Мроі»). Лявон Вольскі, праўда, адзначыў, што ў Менску, нягледзячы на больш высокія кошты, канцэрты праходзяць з аншлагам, а ў Гародні было шмат вольных месцаў:

**- На Земфіру, мусіць, не прабіцца было?**

Сапраўды, на NRM квіткоў 200 не прадалося, затое на сьпявачку з Уфы квіткоў у Лядовы палац было не здабыць за некалькі дзён. Народ скупаў нават «левыя», зробленыя на ксераксе.

Тым ня меньш, гітарыст гурта NRM Піт Паўлаў назваў канцэрт у Гародні самым удалым ва ўсім туры па Беларусі.

**- У вас аказалася самая лепшая публіка, самая выхаваная. Гарадзенцы ведаюць, як паводзіць сябе на Эўрапэйскіх канцэртах.**

Паўтысячы аматараў NRM сапраўды паводзілі сябе адносна выхавана - канцэрт абыйшоўся без эксцэсаў, моцна п'яных не было, мяккія крэслы Палаца культуры хімікаў засталіся непашкоджанымі. Фэны беларускамоўнага року пакінулі пасьля сябе толькі вялізную колькасьць шалупіньня ад семак на апляваней падлозе.

**Юлія Дарашкевіч**

# Аркестр з сямі галасоў

**У выхадныя гарадзенцы мелі магчымасць слухаць унікальны менскі вакальны ансамбль «Камерата». Два канцэрты, арганізаваныя Гарадзенскай абласной філармоніяй, прайшлі з аншлагам. Кожную песню публіка суправаджала авацыямі, а напрыканцы праграмы ўдзячныя слухачы апладыравалі спевакам стоячы.**

Своеасаблівасць «Камераты» ў тым, што сямёра яе салістаў не толькі сьпяваюць, але і перадаюць галасамі музычны акампанемент - саксафон, трамбон, бас-гітару, віяланчэль і нават кастаньеты. Уражаныя слухачы нават спачатку азіраліся, шукаючы ў зале аркестр.

Рэпертуар «Камераты» стракаты - беларускія, рускія спевы, англамоўны джаз і нават гарачыя лацінаамерыканскія рытмы.

Спевакі не былі ў Гродне больш як год, бо мелі досыць насычаны графік гастроляў. Толькі сёлета яны пакарылі публіку Аўстрыі, Швецыі, Нарвегіі ды Італіі. Да таго ж, «Камерата» запісала свой новы альбом. Ягоная прэзэнтацыя - 23 снежня ў Менску.

**Алеся Тарашкевіч**

# Знаёмцеся: гурт «Ёхар»!

**Упэўнена: калі сёньня выйсьці на гарадзенскія вуліцы з пытаньнем: «Якія гурты Гарадзеншчыны вам вядомы?», то толькі каля пяці працэнтаў зможа даць пэўны адказ. І становіцца неяк крыўдна за маладых талентаў горада. Чаму мы, беларусы, ведаем амаль што ўсе песьні на памяць расейскіх выканаўцаў, а беларускую эстраду зусім не шануем? Менавіта з гэтай нагоды я вырашыла павандраваць па музычных завулках Гродна і знайсьці гурт, які заслугоўвае вашай павагі. Знаёмцеся: гурт «Ёхар».**

## Рэзюме

Гурт пачаў сваё існаваньне з сярэдзіны 1999 года. Яго склад: Дзяніс, скончыў ПТВ N119, піша музыку і тэксты песень, Дзьмітрый, былы навучэнец ПТВ N7 і каледжу. Зараз ён з'яўляецца ўдзельнікам гурта, піша песьні і выконвае іх. Трэці ўдзельнік гурта - Руслан, працуе на басу. І апошні - Макс, зараз вучыцца ў Гомелі, грае на бубнах.

## Пачалося ўсё...

Звычайная гісторыя: маладыя людзі наслухаліся музыкі і прыйшлі да высновы, што менавіта ў гэтай справе яны змогуць знайсьці сябе і рэалізаваць свае задумы. На пытаньне «адкуль пайшла такая незвычайная назва гурта» музыканты адказалі: «Ёхар - у перакладзе - танец народаў Крайняй Поўначы. Такі вясёлы і завадны...».

Першы раз гурт пабачыў публіку і наадварот - публіка пабачыла гурт у жніўні гэтага года на акцыі «Рок супраць наркотыкаў». Прычым адразу адчувалася ўзаемная сімпатыя з абодвух бакоў.

## А аднойчы...

Гурт запрасілі на вечарыну ў лагер «Дружба». Публіка прыняла музыкантаў з павагай, чаго не адчувалася з боку адміністрацыі. «Разумееце, ёсьць такое выказваньне: чым старажытны чалавек адрозніваецца да сучаснага? Нагул, нічым: і ў першых і ў другіх адно захапленьне - сядзець усю ноч каля вогнішча і сьпяваць песьні. Пасьля канцэрту мы ўсю ноч адпачывалі, сьпявалі. А гэта, мусіць, не зусім спадабалася адміністрацыі».

## Трошкі пра рэпэртуар...

Напрамак музыкі - рок. У песьнях гурта можна сустрэць праблемы, з якімі штодзённа сутыкаецца моладзь. «Рэпэртуар у нас падзяляецца на дзве часткі: першая - пра дзяўчат, другая - больш сур'ёзная. Прычым мы не стараемся быць падобнымі на папулярных «зорак», інакш кажучы з'яўляцца іх ценем. Мы такія, якія ёсьць і хочам, каб нас ведалі толькі такімі»!

## Дайце дарогу маладым талентам!!!

Сумна стала, калі даведалася, у чым прычына адсутнасьці сваёй праграмы - грошы, няма спонсараў. Няўжо сёньня нават талент павінен падпарадкоўвацца грошам? Няўжо ад гэтых грашовых знакаў залежаць далейшыя крокі (і ці будуць яны ўвогуле) таленавітых людзей...

**Надзея Салыга**

**«ПОПАЛ ПОД ЛОШАДЬ»**

# Галасуй! А то... застанешся без працы

**21 лістапада быў звольнены з працы дырэктар гарадзенскага ПТВ-49 «Хімікаў» Павал Касцюкевіч. Ён сцвярджае, што гарадскія ўлады не працягнулі з ім кантракт з-за таго, што ён не прагаласаваў на выбарах у Палату прадстаўнікоў.**

**У памяшканні Грамадскага аб'яднання «Ратуша» 24 лістапада Беларускі Хельсінкскі Камітэт арганізаваў прэс-канферэнцыю, на якой Павал Касцюкевіч падрабязна распавёў пра інцыдэнт.**

Дэпутат гарадскога савета Касцюкевіч ужо 15 гадоў працуе дырэктарам ПТВ-49. Да гэтага ён пяць гадоў быў намеснікам дырэктара гэтага вучылішча. За гады яго працы вучэльня атрымала пераходзячы Чырвоны сцяг, узнагароджана граматай Вярхоўнага Савета. У жніўні гэтага года Касцюкевіч асабіста атрымаў узнагароду ад Міністэрства асветы, у верасні яшчэ дзве граматы ад гарсавета і гарвыканкама. А тры тыдні таму па чутках ён даведаўся, што з ім не збіраюцца працягваць кантракт.

*«...Я прыйшоў да Анатоля Пашкевіча (**старшыня гарвыканкама - А.С.**) на прыём, - гаворыць Павал Касцюкевіч, - і запытаўся, ці гэта праўда? «Так», - адказаў ён і прывёў довады, якія абсалютна не тычыліся маёй службовай дзейнасці...»*

Сябрамі калектыва вучэльні «Хімікаў» была ўтворана ініцыятыўная група, якая вырашыла хадайнічаць за Касцюкевіча. Ва ўсіх кабінетах перад ёю зачыняліся дзверы. У прыёмнай намесніцы старшыні аблвыканкама Марыі Біруковай ім сказалі: «Што вы ходзіце? Ідзіце лепш працаваць». А Таццяна Палудзень (загадчыца арганізацыйна-кадравага аддзела ў гарвыканкаме), паводле словаў Касцюкевіча, ясна патлумачыла, што ён не галасаваў, таму яго і звальняюць...

**Павал Касцюкевіч:**

*- У ПТВ была паслана праверка... На мяне распачалася сапраўдная траўля... Я насамрэч не галасаваў, бо лічу тыя выбары фарсам. Але гэта маё асабістае права! Тым больш, што мой калектыў прагаласаваў выдатна. Я займаю пэўную пасаду і адпаведна ёй вымушаны выконваць загады ўлады. Напярэдадні выбараў мэр горада Анатоль Пашкевіч сабраў нараду кіраўнікоў навучальных установаў, дзяржаўных прадпрыемстваў і арганізацыяў, на якой заявіў: «Калі мы правалім выбары, то не будзе нас, не будзе і вас»... Я зарганізаваў выбары на маім участку. Але гвалтоўна я нікога не прымушаў, хаця можна было выкарыстоўваць розныя сродкі. Напрыклад, хадзіць і прымушаць галасаваць навучэнцаў, якія жывуць у інтэрнатах».*

**За каментарамі ПАГОНЯ звярнулася да гарадзенскіх уладаў.**

***Уладзімір Гаўрон**, загадчык упраўлення адукацыі аблвыканкама:*

*- Першы раз чую, што Касцюкевіч звольнены за тое, што не прагаласаваў на выбарах. Па закону мы проста не працягнулі з ім кантракт. На гэта ёсць шмат падставаў: былі праверкі дакументацыі за апошнія гады, правяраліся фінансавыя справы ПТВ... А хто ён такі, каб даваць прэс-канферэнцыі. Ён што - міністр? Касцюкевіч вам шмат чаго нагаворыць. Ён вам скажа, што ён - Святы Ян. Але ён не Святы Ян, у яго шмат хібаў, якія не даюць яму працаваць».*

Пазбавіць Касцюкевіча працы было даволі лёгка. Ён цалкам залежыць ад мясцовых уладаў, бо працуе, як і ўсе кіраўнікі, на кантрактнай аснове. Паводле яго словаў, на перадвыбарчым пасяджэнні ў гарадзенскім гарвыканкаме чыноўнікам далі зразумець, што яны «людзі кантрактныя, паднявольныя і павінны выконваць распараджэнні вышэйшага кіраўніцтва».

Спадар Касцюкевіч яшчэ не ведае, дзе будзе шукаць сабе працу. Але ў Гродне, лічыць ён, яму месца ўжо не будзе.

**Алеся Сідлярэвіч**

